# Дзедзіч

*Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць.*
*Янка Купала*




**Спецыяльны выпуск**

**Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь ДАК «ДЗЕДЗІЧ» № 3 красавік 2000г.**


# Даруй нам, Маці-Краіна!

Радзіма! Беларусь! Наша бацькаўшына – маці! Які цяжкі лёс выпаў на Тваю долю! Колькі Табе давялося выпакутаваць, змагацца за шчасце сваіх дзяцей. Колькі раз ворагі прыходзілі да Цябе, каб забіць Тваіх сыноў, а для сваіх гарэмаў набыць новую прыгожую зорку. Але Ты хавала нас у сваіх густых пушчах, паіла крышталньнай вадой сваіх рэк, а ворагі нашы гінулі ў Тваіх балотах, замярзалі ад холаду Тваіх "прывітанняў".

Мы, Твае дзеці–небаракі, выходзілі з лясоў і зноў прастадушна пускалі на Твае прасторы чужынцаў. Ты даравала нам за нашу дзіцячую легкадумнасць і нявопытнасць, бо Ты – нашая Маці.

І вось 14 гадоў таму да нас зноў прыйшла бяда. Але ад гэтага ворага не схавацца ў лесе, і не ўтапіць яго ў балоце. Вораг гэты – самы моцны, самы страшэнны, самы непераможны. І прыйшоў ён надоўга, і пасяліўся ва ўсіх Тваіх куточках, і ад гэтага часу дзеці твае будуць хворыя, а зямля Твая, і рэкі, і азёры – атручанымі.




Даруй нам Маці, калі зможаш, даруй апошні раз, бо мы, Твае неразумныя дзеці нарэшце зразумелі сваю галоўную памылку – **былі мы занадта даверлівымі.** Нам казалі: "Мы навучым вас, беларусаў, як трэба жыць, бо мы лепш ведаем". Мы верылі. Нам казалі: "Мы, вашы старэйшыя браты. Будзем жыць разам". Мы зноў верылі і гублялі свой дом.

**Зразумелі мы,** што калі б былі гаспадарамі ў сваім доме, то ніколі б расейскія самалёты не растрэльвалі радыёактыўныя воблакі, што ляцелі на Маскву, над Тваім Магілёвам, ніколі не выводзілі б мы сваіх дзяцей на Першамай у тую чорную вясну.

**Зразумелі мы** і тое, што ў нашай сям'і таксама не без вырадкаў, - тых, хто замоўчваў праўду пра маштабы трагедыі, тых, хто зараз кажа, што не бачыць ніякай радыяцыі і прымушае маладых спецыялістаў губіць здароўе ў Чарнобыльскай зоне. Яны, гэтыя вырадкі, адракліся ад Цябе, Маці, прадаліся ворагам тваім і хочуць знішчыць увогуле род Твой.

Калі зможаш Ты дараваць нам, калі выратуеш ад гэтай бяды, **абяцаем**, што больш не прыйдзецца Цябе клапаціцца за нас. Мы ўжо выраслі, і за гэта Цябе вялікі дзякуй. Цяпер наша чарга. Цяпер мы будзем даглядаць Твае лясы і палі, упрыгожваць Тваю зямлю. Цяпер мы самі будзем сачыць за сваім домам і ратаваць Цябе ад ворагаў, і знешніх, і ўнутраных. Будзем нараджаць і гадаваць сваіх дзяцей, каб заўсёды гучала на нашых родных прасторах Твая мілагучная мова, каб заўсёды была Ты шчаслівая, наша Радзіма, каб не зведала ўжо ніколі такога гора, як у 1986 годзе, і каб заўсёды было каму казаць: «Жыве Беларусь!».

**Калі ж нарушым мы гэтую святую клятву і зноў аддамо Цябе на разарванне чужынцам, дык няхай ужо тады не будзе ў нас дзяцей і знікне з Зямлі нешчаслівы беларускі род!**

***Б. Дэпеша***

## Бядой запаленае слова

Пасля чарнобыльскай катастрофы экалагічная тэма стала скразной тэмай у сучаснай беларускай літаратуры.

Яна прыйшла нечакана—Бяда. І як не хавайся, не ўцякай, яна ўсё роўна цябе знойдзе, каб пакінуць на вуснах *змярцвелы пацалунак.* Бяда прыходзіць нечакана...

Што ж нас прымушае зноўку і зноўку вяртацца да той страшнай навалы? Боль за нашую Беларусь, жах у вачах дзяцей нашых, спустошаныя хаты на ўскрайку вёсак...

Як жа забыцца і рушыць, калі
Неба і воблакі быццам бы тыя,
Тыя ж прадвеснем лятуць жураўлі,
Тыя ж крыжы на магілах святыя.

Як жа паверыць: жахотай-смугой
Доля сірочая вёсны гартае,
Самай прачорнай, драпежнай смугой
След чалавечы ў палях замятае.

**Мікола Мятліцкі.**

Літаратура нараджаецца з ціхай радасці: пяшчотнага сонейка, ласкавай усмешкі, а яшчэ яна можа нараджацца з БОЛЮ.

Для некаторых творцаў-літаратараў дзень 26 красавіка стаў момантам трагедыйнага адліку новага часу. Чарнобыльская тэматыка ўвайшла ў творчасць М.Мятліцкага, А.Дударава, С.Законнікава, У.Някляева, С.Сокалава-Воюша, І.Шамякіна, З.Дудзюк, Э.Акуліна і іншых літаратараў-сучаснікаў. *Ці варта ўспамінаць усе імёны?* Боль краіны—боль кожнага з нас.Але ж яднае адно—ніхто не можа застацца раўнадушным. Мы абіраем розныя шляхі: адны—зняверанне, страту веры ва ўсё святое на гэтай зямлі, другія—усведамленне гэтага болю, нараджэнне з ім нанова, каб падтрымаць іншых.

Кут мой забыты, безабаронна
Зорыш нагаслых крыніц вачыма
Некаму ты—
Ачужэлая зона,
Сэрцу майму ты да скону
Радзіма!

**М.Мятліцкі.**

Праз гэтае сэрца праходзіць вялікі смутак. Творца спрабуе данесці яго да нас. Ці не ў гэтым існасць яго жыцця? Але ж сапраўдных творцаў так мала і нават яны могуць зняверыцца.

Пакутны крык
Дагэтуль зняме́лы
Бязмоўе!
Слова патрапляе ў лёх.
Мо жыў калісь на Беларусі Бог,
Але сканаў
На стручанае глебе.

**Вольга Куртаніч.**

Сумна вядомы выраз: "Бог сканаў". *А што ж засталося?* Застаўся чалавек, чалавек сам-насам са сваімі праблемамі, якія ачарствеў, прызвычаўся да свайго болю.

Журботныя, трагедыйныя матывы ў пачатку 90-х гг. загучалі ўсё гучней і гучней. Ды й ці маем права на маўчанне? Творца стварае сваю рэальнасць, у якой адпостроўвасцца само жыццё, яго законы.

**(Працяг на старонцы 3)**

# чарнобыльскі ШЛЯХ 2000



# МЫ - НАРОД!

## З гісторыі аварыі на ЧАЭС

**26 красавіка** 1986 года ў 1 гадзіну 23 хвіліны на Чарнобыльскай АЭС адбылася аварыя, вынікі якой для Беларусі сталі катастрафічныя. У выніку аварыі ў атмасферу выкінута каля 1 млрд. кюры радыёактыўных рэчываў. З іх 70% выпала на тэрыторыі Беларусі. 23% тэрыторыі Беларусі (13,2% тэрыторыі Брэсцкай вобласці) забруджана цэзіем-137 са шчыльнасцю больш за 1 Кі/км$^2$. На гэтай тэрыторыі пражывае каля 2 млн. чалавек, з іх 500 тыс. дзяцей.

Замоўчванне інфармацыі аб экалагічным бедстве тагачаснымі ўладамі нанесла насельніцтву ўрон у 5-10 разоў большы, чым ён мог бы быць. Магілёўская радыёактыўная пляма (якая магла быць у некалькі разоў меншай) – гэта вынік штучнага асаджэння радыёнуклідаў на тэрыторыі Беларусі. Гэта была "дапамога" усходняга суседа, калі радыёактыўныя воблакі панесла ў бок Масквы.

Найбольш негатыўны ўплыў аказала і аказвае радыяцыя на дзяцей. У 2-5 разоў дзіцячы арганізм больш актыўна чым дарослы назапашвае радыёнукліды і ў столькі ж разоў радыяцыя аказвае больш шкоднае ўздзеянне на дзяцей чым на дарослых. У выніку ціск на дзяцей радыяцыі ў 4-10 разоў мацнейшы. Каля 70% дзяцей з забруджаных раёнаў маюць радыёактыўнасць вышэй за небяспечны ўзровень.

2000 год – трагічна-сімвалічная дата ў постчарнобыльскі перыяд. На гэты год 50% плутонію-241 ператвырылася ў амерыцый, перыяд паўраспаду якога 24 тыс. год. Амерыцый называюць смертаносным. Ён актыўна наступае з глебы ў расліны альбо ваду, а затым у жывёлы і чалавека. Нават невялікія яго колькасці наносяць значныя пашкоджанні жывому арганізму. Гэта праблема на узроўні дзяржавы нават не ўзнята. Зноў тысячы людзей без інфармацыі, з праблемай адзін на адзін.

## Последствия аварии на ЧАЭС

1. Последствия аварии с каждым годом возрастают. Но с каждым годом они все больше замалчиваются и игнорируются.
2. Количество раковых и множество других заболеваний увеличивается. В загрязненных районах только 10 человек из 100 признаны здоровыми. Количество денег на здравоохранение и медицину в лучшем случае остается прежним. Большинство Чернобыльских программ свернуты, приостановлены или недофинансированы. За последние 4 года сегодняшнее руководство страны почти в 8 раз сократило программы по уменьшению последствий Чернобыльской катастрофы.
3. Не полностью выполнена программа отселения населения из зоны с загрязнением свыше 40 Ки/км$^2$, а уже наблюдается обратное заселение радиоактивной зоны. Что это? Результат экологической неграмотности, попустительства или пропаганды заселения новых (старых) земель? Землю эту можно будет заселять постепенно через 60-300 лет. В Украине все жители выселены с территории, где уровень загрязнения выше 15 Ки/км$^2$.
4. За последние 7 лет количество населения уменьшилось на 1% в результате превышения смертности над рождаемостью. Продолжительность жизни людей сокращается. Президент говорит, что национальный доход увеличивается, благосостояние населения растет, Чернобыльская проблема – больше не проблема. **Среди факторов демографического угасания – радиоактивный, занимает главное место.**
5. Экономический ущерб от аварии по расчетам специалистов за 1986-2015 гг. превысит 235 млрд. долларов США. Никто не потребовал возмещения ущерба от правопреемника СССР – России.

# Обращение

**Генеральному Секретарю**
**Организации Объединенных Наций**
**Господину Кофи Анану**

Обращается к Вам Национальный Исполнительный Комитет ("теневое правительство"), как структурное подразделение, образованное при Верховном Совете Республики Беларусь.

Вам несомненно известно, сколь катастрофические последствия вызвала в Беларуси авария на Чернобыльской АЭС в 1986 году. Белорусский народ более всех испытал на себе последствия чернобыльской катастрофы. Почти четвертая часть населения страны непосредственно пострадала от этой аварии. По официальным оценкам ущерб от последствий чернобыльской катастрофы составляет 235 млрд. долл. США.

На 45-ой сессии Генеральной Ассамблеи Организации Объединенных Наций 20.09.91г. по обращению СССР, Украины, Беларуси были утверждены первоочередные проекты по смягчению последствий чернобыльской аварии на сумму 746 млн. долл. США. Однако из этой суммы реально выделено лишь около 10 млн. долл. США.

По оценкам специалистов, коллективная доза облучения от радиоактивного загрязнения территории Беларуси, полученная к сегодняшнему моменту ее населением, составляет 2,8 млн. чел./бэр. Произведенные в свое время атомным ведомством оценки ущерба, наносимого облучением здоровью людей, показали, что затраты, связанные с восполнением потери здоровья, составляют 4000 долл. США за один чел./бэр. Отсюда, ущерб, нанесенный здоровью пострадавшего населения Беларуси, составляет 11,2 млрд. долл. США. Годовой же бюджет Республики Беларусь составляет сегодня лишь 1,8 млрд. долл. США, что делает нереальным устранение последствий чернобыльской катастрофы силами самой республики.

В связи с чернобыльской катастрофой в Беларуси грубо нарушены права человека на компенсацию нанесенного ему материального и морального ущерба, а также ущерба здоровью.

Однако ни одна страна мира не сочла нужным поддержать народ Беларуси в этой труднейшей ситуации. Беларусь оставлена один на один с этой жесточайшей трагедией.

Национальный Исполнительный Комитет обращается к Организации Объединенных Наций с требованием защитить народ Беларуси от постигшей ее беды. Беларусь является безъядерной страной. Она не угрожала и не угрожает ни одной стране Мира. Ядерная беда пришла к нам из-за пределов страны. И в этом прямая или косвенная вина лежит на странах "ядерного сообщества", производящих атомные реакторы или эксплуатирующих их.

Мы обращаемся к Вам, уважаемый Генеральный секретарь, с просьбой:

**1. Создать под эгидой ООН независимую Международную Комиссию для оценки последствий чернобыльской катастрофы в Беларуси.**

**2. Поручить Комиссии разработать программу эффективных мер по оказанию Беларуси действенной международной помощи.**

**3. Поставить на рассмотрение Генеральной Ассамблеи вопрос о компенсации ущерба здоровью населения Республики Беларусь, связанного с аварией на Чернобыльской АЭС в 1986 году.**

Со своей стороны Национальный Исполнительный Комитет готов предоставить Комиссии исчерпывающие данные о вызванной чернобыльской аварией тяжелой демографической ситуации, а также предложить кандидатуры независимых и компетентных представителей для участия в работе этой Комиссии.

*С уважением,*
*Председатель Национального*
*Исполнительного Комитета*
*Гриб М.И.*

**Я хачу жыць!**



**ТЯЖЕЛЫЕ МЕТАЛЛЫ**

Тяжелые металлы – элементы с большой атомной массой. При попадании в организм с вдыхаемым воздухом, эти металлы способны вызвать поражение дыхательных путей или даже вызвать гибель организма.

Кроме того, тяжелые металлы попадают в организм человека через желудочно-кишечный тракт вместе с консервированной (в металлических банках) пищей и напитками. Кислые напитки растворяют такие металлы, как сурьма, олово, цинк, которые содержатся в эмали кастрюль, консервных банках и в автоматах с газированной водой.

## Бядой запаленае слова

(Працяг. Пачатак на с. 2)

А што ж далей, скажаце вы?
Крыху бязладна! Кажаце: у лоб?
А я стаміўся ў нетрах алегорый
Зарэчча... Курапаты... І Чарнобыль
Спыніце спіс, інакш не дагаворым.

**С.Сокалаў-Воюш.**

***Ярына Берасцейская.***

**P.S.** ***Схіліўшыся над кнігай "След чорнага ветру" я раскопвала чужыя лёсы. Не члены Саюзу Пісьменнікаў, не сябры Т.В.Л. ці Бум-Бам-Літу, гэта пісалі "дзеткі-сведкі ", як сказаў у пасляслоўі да кнігі рэдактар-складальнік В.Якавенка.***

"Чарнобыль насоўваецца сваім крылом на кожнага з нас. На Магілёўшчыне ўжо няма кутка, які б не закранула гэта бяда. Тутэйшая зямля таксама з "чорнымі плямамі". Мне здаецца, што
Чарнобыль у мяне ў крыві
ў прамом і пераносным сэнсе".

**Кірыла Крыванос.**

"Я думаю, што тысячы людзей, чый лёс крута змяніў Чарнобыль і вымусіў пакінуць Бацькаўшчыну, будуць заўсёды памятаць родную вёску, свой дуб і сваё жыццё да гэтай вялікай скрухі. Не забудуць чарнобыльцы сардэчнага болю, не забывайце і вы, людзі, пра іх. Няхай вас абміне падобнае ліха!"

**Вадзім Ціханаў.**

"Я разумею ўсе цяжкасці, але не магу зразумець адно: чаму болей за ўсіх пакутуем мы, дзеці. Я хачу жыць і мяркую пасля заканчэння дзевяці класаў паступіць у наш саўгастэхнікум, дзе паспяхова вучацца два мае старэйшыя браты. Хачу лячыць зямлю, вырошчваць хлеб. Мару быць патрэбным людзям, жыць, працаваць на карысць сваёй шматпакутнай Айчыны".

**Аляксей Хілько.**

"Няма слоў, такіх патрэбых, якія б, трапіўшы ў вушы, зажывілі душэўныя раны многіх тысяч і мільёнаў беларусаў, якіх напаткала бяда.

А боль не затухае. Людзям, якія не зведалі яго, трэба дапамагчы справай: міласэрнасцю, дабрынёй, павагай".

**Валерый Баравік.**

"Чарнобыль – нацыянальнае бедства, якое трагічна паўплывала на лёсы соцен тысяч людзей. Хіба не так?

Боль наш—Чарнобыль. І не суцешыць яго калейдаскопам чароўных уражанняў ад аздараўленчых вандраванняў па свеце дзяцей з зоны, не суняць абяцаннямі ўрада аб увядзенні дадатковых кампенсацый насельніцтву, не заспакоіць прагнозамі медыцынскай навукі і практыкі".

**Аркадзь Палонскі.**

"Мы, дзеці, адно толькі – працяг будучыні дарослых. Мы яшчэ не пачалі самастойнага жыцця. Дык чаму ж тады мы больш за ўсіх пакутуем?

Нам хочацца быць здаровымі, а не з'яўляцца на свет з парокамі і захворваннямі, ад якіх рана паміраюць. Мы нікуды не хочам ехаць ад родных мясцін, бо там застаецца тое, чаго мы не бачылі і што адчуваем, — дух нашых продкаў. Мы – дзеці хлебаробаў, і зямля, палітая потам нашых дзядоў і прадзедаў, не адпускае нас ад сябе. Яна нам завешчана. Мы – нашчадкі ўсіх дзівосаў на гэтай зямлі, яе культуры".

**Ліля Кавалевіч.**

(Працяг на старонцы 4)

## Бядой запаленае слова

(Працяг. Пачатак на с. 2)

"За што беларусам у чарговы раз выпала столькі пакут? На чарнобыльскі алтар прыходзіцца аддаваць самае дарагое і непаўторнае: родную хату, калыску, матчыну песню, красу прыроды, душэўны спакой людзей... Каб адказаць, што значыць Чарнобыль у маім лёсе, нічога не трэба гаварыць, толькі паглядзець у вочы маіх бацькоў, аднавяскоўцаў, настаўнікаў. Паглядзець уважліва. Б'юцца ў пакутах сэрцы маіх землякоў, шчыміць на душы ў кожнага з іх, бо няма ім супакаення на хворай зямлі, бо страцілі яны веру ў заўтрашні дзень. А гэта страшна".

**Андрэй Бачыла.**

"За час хваробы я шмат згубіла, але не меньш і знайшла. Я навучылася спачуваць чужой бядзе. Успамінаецца, напрыклад, маленькі хлапчук і яго маці. Дзіця было амаль беспрытомнае. Здавалася для яго маці жыццё згубіла сэнс. У яе не было слёз, каб аблегчыць боль свайго сэрца. Яна іх выплакала. А вочы такія сумныя... Не трэба было добра ўглядацца, каб прачытаць пытанне: "За што пакутуе мой сынок"? І я часта думаю: за што?..

Як страшна бацькам класці ў магілу сваіх дзяцей!"

**Юля Ігнацюк.**

"Гудзе экалагічны звон. Трывогаю і болем напоўнены яго гукі. Болем – за нашу зямлю, палітую кіслотнымі дажджамі, за атручаныя хімікатамі рэкі, за неба з азонавымі дзіркамі, за высечаныя лясы... Трывогаю—за будучыню дзяцей і ўнукаў. Гудзе, стогне звон. І самымі горкімі нотамі гучыць у яго гуле Чарнобыль. Гэта катастрофа ўзрушыла ўвесь свет. Урокі Чарнобыля павінны быць асэнсаваны і зразумелы. Толькі тады можна будзе спадзявацца, што падобнае не паўтарыцца."

**Наталля Яскевіч.**

"Мяне палохае будучыня. Робіцца страшна за сябе, за сваіх аднакласнікаў, за ўсіх знаёмых і незнаёмых. Ненавіта наша пакаленне пакажа, як уздзейнічае радыяцыя. Мы падвопытныя. Не ўсе гэта разумеюць, ды, можа, так і лепш. Але ж мая маці—педыятр, яна працуе ў дзіцячым аддзяленні ЦРБ і часта лечыць наванароджаных. Дзеці нараджаюцца без лёгкіх, з аднакамерным сэрцам, з іншымі мутацыямі."

**Настасся Часнакова.**

"Ціха шуміць стары вяз над бабулінай хатай. З гэтым шумам знікаюць трывогі, нараджаюцца надзеі. Надзеі, што калі-небудзь здарыцца цуд і вучоныя знойдуць спосаб знішчыць радыяцыю, каб зямля мая зноў стала чыстай, каб людзі без аглядкі жылі тут, не баючыся нічога. Так хочацца думаць, што гэта будзе. Бо я веру ў сілы свайго народа, нязломнага, моцнага духам, які не раз выходзіў з разных выпрабаванняў пераможцам. Перамога ён і цяпер."

**Святлана Шаўчук.**

"Я засынаю з верай, што заўтра будзе лепш, чым сёння. І ў сне я бачу сваё шчаслівае дзяцінства, дзе мяне нішто не турбуе і дзе я магу, лёгка ўзмахнуўшы рукамі, нібы птушка крыламі, узляцець у неба і ўбачыць зверху нашу родную Беларусь з усёй яе прыгажосцю—зямлю, якую я люблю і буду любіць заўсёды."

**Марына Мігдасёва.**

(Заканчэнне на старонцы 5)

# Радыяцыя і алкаголь

Вакол алкагольных напояў заўсёды ствараліся розныя абсурдныя "тэорыі", якія звычайна мелі адну мэту: прапагандысцкую. Што алкаголь дапамагае пазбавіцца ад радыяцыі — адна з такіх "тэорый". І хаця неаднаразова апраўвяргалі яе, але ўсё-такі абсурдная "тэорыя" працягвае жыць. А нарадзіліся яны яшчэ ў гады вайны, калі ў нас ужо праводзіліся работы па атамнай энергетыцы. Тады, мусіць, невыпадкова і узнік лозунг: "Алкаголь выводзіць радыенукліды". Атамшчыкі хутка ўзялі яго на ўзбраенне. Вынік вельмі дрэнны: у 60-я гады сярод іх было сорак працэнтаў алкаголікаў. Цяпер гэты працэнт павялічыўся. Могуць спіцца і іншыя, хто напалоханы радыяцыяй.

На вялікі жаль гэтаму садзейнічае і сучасная медыцынская навука. Яна прыйшла да глыбока "навуковага" вываду, што чырвоныя віны ва ўмераных дозах карысныя для чалавека і садзейнічаюць хуткаму вывядзенню з арганізма радыёнуклідаў.

Але медыцына на гэтым не спынілася. У чырвоных вінах яна "выявіла" рэчывы, якое як быццам бы паніжае генетычныя наступствы апраменьвання.

У 1991 годзе у кніжных магазінах з'явілася кніга амерыканскага практыка-дыетолага С. Шэнон "Харчаванне у атамным веку". Аўтар даказвае, што ва ўмовах пастаяннага ўздзеяння малых доз радыяцыі неабходна асаблівую ўвагу звярнуць на рацыянальнае харчаванне; на яго думку, трэба ўжываць "жывы" харч — крупы, бабовыя культуры, агародніну, садавіну. Разам з тым, пазбягаць такіх прадуктаў, як белы рафінаваны цукар, мяса, малочныя прадукты.

Аснова здароўя — здаровы спосаб жыцця: правільнае харчаванне, абавязковае ўжыванне малочна-кіслых прадуктаў, рыбы, агародніны і садавіны. Пры недахопе апошніх — прымяняць ундэвіт, пангексавіт, дэкамевіт і іншыя вітаміны групы В і С. Асабліва вясною. А яшчэ — хадзьба, лыжы, рыбалка, умераная праца ў садзе і г. д.

Практыка сведчыць, што ў групе людзей, якія перанеслі хранічную прамянёвую хваробу і дажылі да 70—88 гадоў, пераважна былі тыя, хто добрасумленна выконваў гэтыя парады, не курыў і не прымяняў алкаголю. Мала было сярод іх і людзей з лішняй вагой.

Кандыдат медыцынскіх навук В. Дошчанка пісаў, што алкаголь не паскарае вывядзення з арганізма радыёізатопаў, а як добры растваральнік садзейнічае іх хуткаму паступленню з кішэчніка ў кроў.

Апошнім часам усё больш і больш вучоных на аснове праведзеных эксперыментаў прыходзяць да такой думкі. Паступова разбураецца абсурдная тэорыя пра карысць алкаголю, як тэорыя, якая не мае ніякага навуковага абгрунтавання.

***Маланка.***

# Біягенны фенамен

Дзікам належыць істотная роля ў экасістэмах, забруджаных радыенуклідамі. Звычайна на ўчастках, якія перакапаны гэтымі жывёламі, гама-фон у паўтары-два разы ніжэйшы, чым на суседніх. Тлумачыцца гэтая з'ява тым, што ў першую чаргу яны паядаюць маладыя расліны, іх карані, якія акумулююць шмат радыёнуклідаў, і, па-другое, у сувязі з разбурэннем надглебнага покрыва адбываецца іх вымыванне, пранікненне ў больш глыбокія слаі. Як бачна, дзік з'яўляецца моцным і, мабыць, адзіным біягенным інструментам рэкультывацыі ў натуральных экасістэмах.

Напрошваецца пытанне: як уплываюць дзікі на працэс мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі? Устаноўлена, што адна дарослая жывёліна перакопвае за суткі каля 150 квадратных метраў глебавага покрыва, а за год не менш, чым пяць гектараў. У Палескім запаведніку пражывае 2500-3000 дзікоў. Значыць, на працягу года яны перакопваюць каля пятнаццаці тысяч гектараў. За час, які прайшоў пасля чарнобыльскай аварыі, дзікі "рэкультывавалі" прыкладна 30—40 працэнтаў плошчы сваіх жыццёвых біятопаў.

Яшчэ адзін эфект дзейнасці гэтых "аратых" - важкі ўклад у працэс натуральнага аблясення адкрытых участкаў тэрыторыі. Шчыльны і тоўсты слой надглебавага покрыва на былых сенажацях і палях перашкаджае прарастанню насення дрэўных і кустоўных культур. А пасля "апрацоўкі" тэрыторый дзікамі ствараюцца спрыяльныя ўмовы для росту маладых дрэўцаў. Узнікае пытанне: а ці патрэбна на забруджаных тэрыторыях штучна садзіць лес і рызыкаваць здароўем людзей, калі гэта можа зрабіць сама прырода?

У частцы даследаваных звяроў, асабліва здабытых у раёнах моцнай і сярэдняй забруджанасці, утрыманне радыёнуклідаў бывае вельмі высокім. У асобных дзікоў іх канцэнтрацыя перавышала мільён бекерэляў на кілаграм вагі. Такія жывёлы з'яўляюцца, па сутнасці, жывымі "ядзернымі рэактарамі", хаця знешне выглядаюць абсалютна здаровымі і нават добра ўкормленымі. У той жа час вядома, што адзіная пылінка плутонію, трапіўшы ў лёгкае, абпраменьвае бліжэйшыя ткані арганізма з інтэнсіўнасцю, якая раўняецца прыблізна 800 тысячам мікрарэнтген у гадзіну і можа выклікаць захворванне на рак. Але арганізм звяроў вельмі ўстойлівы да розных змен і хутка адаптуецца нават да радыяцыйнага абпраменьвання і таму ў іх слаба праяўляюцца негатыўныя фактары.

Небяспека радыяцыі для здароўя чалавека даказана вялікай колькасцю фактараў. Аднак адносіны да яе некаторых людзей, у першую чаргу паляўнічых, а пра браканьераў ужо і казаць няма чаго, часам бываюць няправільныя. Спажываецца забруджанае мяса, выкарыстоўваюцца скуры, футра і трафеі — рогі, іклы, чучалы. Часам яны становяцца прадметам гандлю, што вядзе да шырокага распаўсюджвання радыяцыйнага забруджвання.

Каб засцерагчы свае здароўе ад выпраменьвання, людзі павінны не заспакойвацца, а заўсёды памятаць што яно існуе ў нашым сённяшнім жыцці. Што ж датычыцца паляўнічых жывёл, якія жывуць на забруджаных тэрыторыях, асабліва ў Палескім запаведніку, то яны павінны знаходзіцца пад пастаянным кантролем. Відавочна, неабходна перыядычна, адзін раз у тры-чатыры гады, рэгуляваць колькасць відаў, якія дасягнулі высокай шчыльнасці. Гэта зменшыць рызыку ўспышкі небяспечных захворванняў сярод жывёл з аслабленым імунітэтам і іх рассяленне на адносна чыстыя тэрыторыі.

Навукы яшчэ не вядомыя дакладныя наступствы рукатворнай радыяцыі на вольнажывучыя папуляцыі дзікіх жывёл. На жаль, крызісная сітуацыя ў эканоміцы не дае магчымасці працягваць даследаванні ў гэтым кірунку. Хочацца спадзявацца, што ўрадавыя структуры перагледзяць размеркаванне бюджэтных сродкаў і забяспечаць неабходнай фінансавай падтрымкай навуковую работу ў галіне жывёльнага і расліннага свету.

***Пётр КОЗЛА***

*вядучы навуковы супрацоўнік Іститута заалогіі Акадэміі навук Беларусі.*

# Проблема америция-241 приближается

"Проблема-2000" - завершение первого полураспада плутония-241 и преобразование его в смертоносный америций-241. В 2000 году ничего не подозревающее население как минимум Брагинского района получит еще один "маленький Чернобыль".

Тот факт, что выпавший в основном в Брагинском районе плутоний-241 по истечении 14,4 лет преобразуется в несравнимо более опасный америций-241, является для физиков азбучной истиной.

Но если не считать выступлений пары-тройки учёных, проблема америция остается под занавесом тайны. Власти не решаются заявить о приближающейся катастрофе. Более того, несколько лет назад Александр Лукашенко торжественно и официально объявил о завершении процесса отселения и начала возвращения на покинутые земли населения. В числе территорий, где отселение тогда было прекращено, оказался и Брагинский район. При этом Брагинский район отличается от прочих загрязнённых территорий Беларуси тем, что здесь самый высокий уровень загрязнения тем самым плутонием-241.

Процесс полураспада плутония-241 и появления америция-241 чреват тем, что последний в отличие от других радионуклидов обладает очень жестким гамма-излучением. Фактически — это яд, поражающий различные жизненные системы человека и в первую очередь — пищеварительную. Учитывая наличие в национальной стратегии безопасности такого пункта, как продовольственная безопасность, если вспомнить про способность америция (в отличие от плутония) к растворению в воде и то, что основные центры распространения распадающегося плутония находятся в водопитающих районах, то становится очевидно: речь идет о новом витке чернобыльской катастрофы. В общей сложности, по некоторым оценкам, могут пострадать около 200 тыс. белорусов. Причем это не только проживающее сегодня непосредственно в Брагинском районе население. Это также люди, выехавшие в ходе отселения из зоны, но после 1986-го успевшие с местными продуктами накопить плутоний.

Чтобы минимизировать масштабы грядущей катастрофы, требуется срочно продолжить отселение населения из указанных районов, снабдить его дозиметрами (америций легко определяется по гамма-излучению), отказаться от потребления загрязнённых продуктов и произвести их надежное захоронение. Но власти молчат. У них просто нет денег, чтобы продолжить процесс отселения и гарантировать полную безопасность населения пораженных и прилегающих к зоне регионов. По оценкам экспертов, для преодоления последствий аварии на ЧАЭС за период с 1986 по 2015 год понадобится порядка Usd 235 млрд. Но власти, как известно, находят деньгам иное применение.

14-15 апреля проходил семинар по экологическому мониторингу в Минске, на котором нашу группу водили в Центр Радиологического Контроля и Мониторинга. Там одна из сотрудниц сказала, что америций не представляет большой опасности, так как во-первых он не растворяется в воде и не будет переноситься на большие расстояния, во-вторых он быстро распадется, потому что у него период полураспада равен 14.4 года (на самом деле 24 тыс. лет), в-третьих его очень сложно определить, т. к. он является источником альфа-частиц, которые не определяются обычным дозиметром.

**Маланка.**

***Ратуй нас, Божа!..***



**ЭТО ВАЖНО ЗНАТЬ:**

Основное количество радионуклидов, выпавших на леса, находятся в верхнем (2-5см) слое лесной подстилки. Высокое их содержание отмечается в коре деревьев, валежнике, мхе, лишайниках, грибах и ягодах.

Наименьшее загрязнение имеют ягоды рябины, земляники, малины, наибольшее - черники, клюквы, брусники, голубики.

Наименьшим накоплением отличаются грибы: опёнок осенний, белый гриб, подосиновик, подзелёнка, сыроежка обыкновенная, шампиньон, зонтик пестрый, опёнок зимний.

Проверка на содержание радионуклидов обязательна. При приготовлении грибы следует тщательно промыть, очистить от почвенных частиц и растительного опада. Обязательно отварить в подсоленной воде и первый отвар слить. При кипячении в подсоленную воду лучше добавить немного столового уксуса *или лимонной кислоты, чтобы* в первый отвар из гриба вышло побольше радионуклидов.

**ЕШЬТЕ ЧИСТО**

Снизить загрязнённость мяса можно засолкой. Наибольший эффект достигается при условии предварительной нарезки мяса на куски и последующего посола с многократной сменой рассола. При этом, цезий-137 переходит в рассол.

Сало содержит меньше радионуклидов, чем другие продукты животноводства. После перетопки сала свыше 95% цезия-137 переходит в шкварку.

## Бядой запаленае слова

(Заканчэнне. Пачатак на с. 2)

"Я ўсё часцей і часцей разважаю: чаму гэта адбылося? Хто вінаваты? Ведаю, быў суд, той-сёй пакараны. Ды ўсё не так проста! І аварыя зусім не выпадковая, і ахвяры, такія шматлікія, таксама маюць сваю абумоўленасць. Чалавек перастаў быць вартасцю? Яго жыццё нішто ў параўнанні з амбіцыямі чыноўнікаў?"

**Юля Тапаркова.**

"Чарнобыль—гэта страшная помста ад роднай зямлі за ўсё: за дзесяцігоддзі здзекаў, за акіян хлусні, за смяротныя грахі і памылкі маіх дзядоў і бацькоў. Мы самі ўвесь час ішлі да Чарнобыля, рабілі ўсё дзеля таго, каб гэта здарылася. Мы, і больш ніхто, вінаватыя ў трагедыі...

І ўсё ж я спадзяюся, што чарнобыльская аварыя не стане апошняй старонкай у гісторыі Бацькаўшчыны. Я нават маю зусім маленькую надзею-мару, што калі-небудзь хаця б для нашых унукаў рэкі і азёры зноў стануць здаровымі, а паветра жывым, дождж і сонца, як некалі, будуць паліваць, лашчыць і саграваць спакутаваную зямельку..."

**Вольга Семянчук.**

"Аднойчы ўзышла над маёю краскай-Беларуссю чорная зорка Чарнобыля, цяжарам легла на душы, жудасным болем адбілася на тварах дзяцей. Восемдзесят шосты...Што ж ты зрабіў з маёю зямлёй пад белымі крыламі? Ці мала было табе, Божа, смяротных і жудасных званоў Хатыні? Ці мала палегла ў цяжкіх бітвах? Ці мала было нам Курапатаў? Што ж ты нарабіў, Божа? Чаму не падумаў пра таго, хто, як лісток, адарваны ад дрэва, жыве не ў родным кутку і нідзе няма яму шчасця, бо вецер часу падхапіў яго і гоніць па свеце."

**Святлана Скамарохава.**

"Божа, які ты ёсць на небе, звяртаюся да цябе! Бо вельмі галосіць душа і балюча на сэрцы. Хачу пачуць, Усявышні, за што пакараў ты маю шматпакутную Зямлю-матухну? Чым жа яна вінавата перад табою?

Божа, калі ты ёсць на свеце, зрабі так, каб па-ранейшаму весела спявалі птушкі, каб ішоў спорны дождж на палеткі, калі яны просяць піць, і дождж быў без стронцыю, каб суседзі-пенсіянеры зноў спявалі "Шумяць вербы каля грэблі" ці "Ой, аралі хлопцы ніву", сабраўшыся вечарам на лавачцы каля хаты маёй бабулі, а не пералічвалі чарговыя ахвяры Чарнобыля сярод сваіх знаёмых.

Я абяцаю табе, Божа, маліцца кожны дзень за ўсіх тых, каго люблю, паважаю, толькі пачуй мой плач, выратуй маю зямлю, маю Бацькаўшчыну.

Няхай свяціцца імя тваё, Усявышні, дзень і ноч, ахоўваючы нас, тваіх дзяцей, накіроўваючы на правільны шлях, аберагаючы ад спакусы, даючы жыццёвыя сілы і мудрасць. Ратуй нас, Божа!"

**Таццяна Акулевіч.**

